Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



КАМУНІКАТ Но. 3 (69 АД 1990), ЛІПЕНЬ, 2002

## 120-я УГОДКІ ад НАРАДЖЭНЬНЯ І 50-я ад СЬМЕРЦІ ЯНКІ КУПАЛЫ

Янка Купала (сапраўднае прозьвіошча Луцэвіч) нарадзіўся ў Вязанцы Заслаўскае воласьці Вялейслкага павету Віленшчыны, 8 ліпеня, а паводле старога стылю 25 чэрвеня, 1882 году. Ягоныя бацькі, Дамімік й Бэнігна з Валасэвічаў Луцэвічы выводзіліся з дробнай беларускай безьзямельнай шляхты.

Ува ўступе да канігі **СПАДЧЫНА**, Выдавецтва «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ», NEW - YORK - MUNCHEN 1955, ува ўступным разьдзеле «ЯНКА КУПАЛА , Жыцьцёвы і творчы шлях паэтых», др. Станіслаў Станкевіч піша:

«. . . Пачаўшы таксама ад бяспрэтэнсіянальных і нярэдка прымітыўных яшчэ вершаў пэрыяду «Жалейкі» ды цераз «Адвечную Песьню», «Гусьляра» І «Сон на Кургане», што ўжо выявілі няштодзённы талент паэты і паказалі ягоны шыбкі рост, дасягнуўшы свайго паэтыучнага зэніыу ў найбольш плодны пэрыяд «Шляхам Жыцьця», «Спадчыны» і да некаторай меры яшчэ «Безназоўнага», перадчасна абарваны ў сілу палітычных абставінаў у 1929 годзе, Купала стаўся найвялікшым беларускім паэтам і тварцом новай беларускай нацыянальнай літаратуры . Ён падняў нашую мастацкую літаратуру на недасягальную перад гэтым вышыню і вывяў яе паза межы роднага краю на эўрапэйскую ўзроўню. У роўніцы ідэйнай Купала, як ніхто перад ім ані пасьля яго, ахапіў сваёй творчасьцю ўсе мамэнты народнага жыцьця, сканцэнтраваў у ёй усе народныя імкненьні, сваім магутным голасам запратэставаў супраць народнае крыўды, гарачымі заклікамі будзіў народ да вольнга, паўнавартаснага й творчага жыцьця, прарочай візіяй вольнай Беларусі і непахіснай верай у зьдзейсьненьне сваіх ідэяў будзіў надзею й гартаваў волю да змаганьня. Усе гэтыя й многія іншыя элемэнты й асаблівасьці творчасьці Купалы, што разьвіваліся і ўзбагачваліся раўналежна з ростам ягонага вялікага таленту, і вызначылі Купалу, як агульна прызнанага ідэйнага правадыра беларускага народу і прарока беларускага нацыянальнага адраджэньня.»

І далей у заканчэньні др. Станіслаў Станкевіч кажа:

«Купала стаўся ўжо сяньня сымбалем духовае сілы й нацыянальнага вызваленьня беларускага народу і гэткім ён астанецца для будучых пакаленьняў. »

*



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

## УГОДКІ ЯНКІ КУПАЛЫ І ЯКУБА КОЛАСА Ў КАНАДЗЕ

5-6 ліпеня 1952 году Згуртаваньне Беларусаў Канады арганізавала над вадаспадам Ніягара Першую Сустырэчу Беларусаў Паўночнае Амэрыкі . Сустрэча была прысьвечана:

**70-м угодкам ад нараджэньня й 10-м угодкам трагічнае сьмерці Янкі Купалы**

Ключавы даклад на тэму **«Янка Купала як чалавек і грамадзкі дзеяч»** меў др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, ініцыятар ды адзін з галоўных арганізатараў Першае Сустырэчы беларусаў Канады і ЗША.

Дзясятая Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, што адбылася ў верасьні 1972 годзу ў Таронта, Канадзе прысьвечана была -

**90-м угодкам ад нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Колася.**

Даклад на гэтую тэму меў праф. Антон Адамовіч зь Нью Ёрку.

*

Прыклады твораў Янкі Купалы, якія, між іншымі, прэзэнтаваліся ў часе сьвяткаваньняў АКТУ 25 САКАВІКА ў Таронта, Канадае.

### СВАЙМУ НАРОДУ

Табе, народ мой, зьгібнуты ў ваковах,
З-пад сэрца песьню гэтую пяю,
І, ускрашаючы мінуўшчыну нанова,
Выказваю цяпершчыну тваю.

Сягні ў даўно заснуўшыя стагодзьдзі,
Заслону дзён уцёкшых адхілі,
І глянь, як сёньня твае жывуць дзеці,
Як ты жывеш на прадзедаў зямлі.

Дняпро і Сож, Дзьвіна, Вяльля і Нёман
Шмат могуць што ў памяці збудзіць,
Ды пушчы Белавескай сумны гоман -
Паслухай толькі, што ён гаманіць

Тваймі рукамі ўзьнесены замчышчы,
Глянь, зарастаюць дзікім палыном,
Па сьцен астатках вецер дзіка сьвішча,
Як-бы пяе памінкі быўшым днём.

Пяе аб тым, як гэтыя байніцы
Край сьцераглі на захад і на усход,
Як з поўначы разбойны чужаніца
Ня ног замчышыскавых скрышыць варот.

Ты жыў, ты панаваў у караю родным,
Сьцярог ад чужака й законы ўкладаў;
Звон вечавы сход склікаў народны,
І сход аб шчасьці Бацькаўшчыны дбаў.

Сягоньня ўсё сьпіць і зарастае зельлем,
Сьцярэч свой край няма ні сьцен, ні рук;
Званы вечавы замоўклі, анямелі,
Ў ярме сагнулі плечы людзі ў крук.

Чужак-дзікун, крывёю ўпіўшысь сьвежай ,
Запрог цябе ў няволю, у батракі
І тваю маці-бацькаўшчыну рэжа,
Жывую рве на часткі, на кускі.

Сыноў тваіх рассееў па ўсім сьвеце,
Як птушак ястраб з гнёздаў разагнаў,
Бацькі дзяцей, а бацькоў сваіх дзеці
Сярод магіл шукаюць і канаў.

І мерцьвякоў знаходзяць... А жывыя...
Як мерцьвякоў пагляд іх і жыцьцё,
Праклёны толькі шэпчуць векавыя,
Ды вечнае чакаюць нябыцьцё.

Ўпаў народ. Змарнеў народ, забыўся,
Як Бацькаўшчну, як яго завуць;
Як падарожны бяз пуцьця, зьнябыўся,
Як сірата, якой нідзе заснуць....

Паўстань, Народ! Прачніся, Беларусе!
Зірні на бацькаўшчыну, на сябе!
Зірні як вораг хату й замлю раструсіў,
Як твой навала злыдняў скарб грабе!

Паўстань і глянь, як зьзяюць скрозь вагнішчы,
Як носяцца сусьветных зьмен віхры,
Як на старога быту папялішчы
Цьвет зацьвітае новае зары!

Паўстань , Народ! Для будучыні шчасьце
Ты строй , каб пут ня строіў больш сусед;
Ня дайся ў гэты грозны час прапасьці, -
Прапашчых не пацешыць шчасьцем сьвет.

Сваю магутнасьць пакажы ты сьвету, -
Свой край, сябе ў пашане мець прымусь.
Паўстань, Народ!... З крыві і сьлёз кліч гэтры...
Цябе чакае маці-Беларусь!

29. 10. 1918.

## ПАЎСТАНЬ З НАРОДУ НАШАГА....

Паўстань з народу нашага, Прарок,
Праяваў буралломных варажбіт,
І мудрым словам ськін з народу ўрок,
Якім быў век праз ворага спавіт.

Зьбяры ў вадну ўсю Беларусь сям'ю,
Вазьмі зь яе прысягу й зарок,
Што не прадасьць сябе, сваю зямлю.. . .
Зьняць путы бацькаўшчыне ўстань, Прарок . . .

*

Паўстань з народу нашага, Пясьняр,
Былых і будучых вякоў баян,
І ў бурны кліч, як буры ўдар,
Зь віхрамі загудзі пад звон кайдан!

Гудзі па Беларусі з краю ў край,
У сэрцах сьпячых распалі пажар,
Над курганамі пяруном зайграй,
Збудзіць нябошчыкаў паўстань, Пясьняр!

*

Паўстань з народу нашага, Ваяк,
І волатам на вогненым кані
Народ аграблены - бы з торб жабрак -
За бацькаўшчыну павядзі ў вагні.

Да хвалы шлях айчыне пакажы,
Зьмяці з палёў ае чужых бадзяк,
На стражы стань гранічнае мяжы. . .
Свой край заваяваць паўстань, Ваяк!

*

Паўстань з народу нашага, Уладар,
Адбудаваць свой збураны пасад,
Бо твой народ забыў, хто гаспадар
І хто яго абдзёр з каронных шат.

На Ўладара жджэ Беларусь даўно,
І жджэ цябе уладарства Божы дар,
Вялікае, магутнае яно . . .
Пад беларускі сьцяг прыдзі, Ўладар!

Карльсбэрг, 28. 8. 1919

У часе сьвяткаваньняў нацыянальных сьвятаў дэклямавалі мы ў Канадзе ў цэласьці і паэму Янкі Купалы **НА КУЦЬЦЮ.** - У ноч на Куцьцю паяўляецца на разваліна старога замчышча дух князя, уладара вольнай Беларусі ў далёкай мінуўшчыне, які, выслухаўшы паведамленьньні трох ганцоў , што народ яшчэ духова не памёр і дамагецца звароту адабраных ад яго сонца, славы і песьні, прарочыць князь, што:

Ня ўмруць, ня ўмруць, ужо яны,
Раз хочуць сонца, славы, песьні;
Заб'юць ім зычныя званы
Прабудным звонам на прадвесьні.
Сваёй забранай старане,
Скаванай мучаніцы-княжне,
Ўзьнясуць пасад на кургане
На панаваньне недасяжне.
На дзеле - кожны йшэ слугой,
У думках - вольныя ўжо людзі;
Над сэрцам іх, над іх душой
Наш дух лунаці вечна будзе.

* * *

І «лунае» над намі несьмяротны дух абодвух нашых песьняроў Янкі Купалы й Якуба Коласа . Іх ужо няма, але песьні іхнія жыць будуць з намі, з будучымі пакаленьнямі - вечна.

У 60-х - 70-х гадох у Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэныты ў Таронта ў часе Вялікодных сьвят на супольнай застольнай бяседзе чыталі мы ўрыўкі з «Новай Зямлі» Якуба Коласа :

Зьвяры Вялікдзень чуюць, птушкі
І хвоі гэтыя , і елі,
Ліхія людзі падабрэлі
Бо сьвятам Божым усюды вее;
З нажом разбойнік не пасьмее
Залегчы ў лесе срэдзь дарогі,
Бо і заможны і ўбогі
Сьвяты Вялікаднік сьвяткуюць
І радасьць у сэрцы сваім чуюць.
....... ...........
«Хрыстос ўваскрос!» - з гары званіцы
вяшчае першы звон шчасьліва.

Народ увесь, бы ў полі ніва
Буйнымі гнецца каласамі,
Скланіўся ціха галавамі.
А пачакаўшы з поўгадзіны,
Нясуць жанкі, нясуць мужчыны
Кашы, каробкі, пўвасьміны
І ставяць урад на цьвінтары
Ўсе вялікодныя дары.
Маленьне бацька-поп канчае,
Ідзе з крапідлам і махае.
......

Антось з Міхалам вяртаюцца з царквы з Усяпчнай дамоў: -

- Ну, едуць, едуць! - Алесь з хаты
Бяжыць да дзядзькі і да таты,
І дзеці кінуліся к парогу.
- Ну, вось і дома, дзякукй Богу!
Прышлі ў хату, усіх цалуюць,
Зь святым Валікаднем віншуюць;
Памыліся борзьдзерньк, садзяцца,
Бо час даўно ім разгаўляцца.
Абрусам белым стол накрыты,
Ўсё мае выгляд самавітры;
Мужчыны добры й прыветны,
Ніякай цені не заметна.
На бэльку кінуў бацька вочы,
Бярэ кантычку й гартае,
«Весолы нам дзісь дзень» шукае,
Хоць сьпевы слухаць неахвочы,
Але трымаюць дзеці згоду,
Бо ўжо вялось так год ад году,
«Вясёлы» ў «ксёнжцы» дзесь прапалі,
Насілу ўдух іх адшукалі
І раптам дружна зацягнулі,
Як-бы іх пугай сьцябанулі;
І маці голас далучае
І так танютка вырабляе,
А гаспадар усё болей з баса,
Уткне такога выкрунтаса,
Аж сам падзівіцца сабе,
І стане горача табе.
Антось бярэ больш танкавата
Й не адстае ніяк ад брата,
А хлопцы толькі ўсьміхнуцца,
Але сядзяц.ь, не зварухнуцца,
К канцу падходзіць «алялюя».

У камуору маці тут тралюе,
Нясе прынадную бутэльку,
кантрычка зноў ідзе на бэльку.
Відэльцы дружна разьбіраюць
І гуртам яйкі ачышчаюць,
І па кусочку іх бяруць ,
Крыху падсольваюць , ядуць.
Вось бацька чарку налівае
І вочы ўгору падымае .
- Дай, Божа, за год дачакаць
Здаровым, вясёлым, жывым
І новы Вялікдзень таксама спаткаць
Удобрым здаровейку ўсім ,
Каб гора і смутку ня зналі .
- Дай Божа! - разам адказалі.
І пайшла чарка з рук у рукі,
Пілі ўсе гладка, бяз прынукі;
Малым папробаваць далі,
Каб весялейшыя былі.
А на стале тым - рай ды годзе,
Таго ня знойдзеш і ў «кампродзе» ,
Ляжала шынка, як кадушка,
Румяна-белая пампушка,
Чырвона зьверху, сакаўная ,
Як-бы агонь у ёй палае,
А ніз бялюткі, паркалёвы;
Кілбасы скруткі, як падковы,
Між сьцёган, сала і грудзінак
Красуе ўсмажаны падсьвінак,
Чысьцюткі , сьвежы і румяны ,
Як-бы паніч той падзіманы,
Муштарда. хрэн - адно дзяржыся,
У рот паложыш - сьцеражыся!
А пірагі, як сонца, зьзялі,
І ў роце бабкі раставалі.
Із смакам елі і багата -
На тое-ж даў Бог людзям сьвята.

* * *

## 485 ЎГОДКІ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ І 480 ЎГОДКІ ДРУКУ НА БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

Доктар Францішак Скарына нарадзіўся пры канцы 15-га стагодзьдзя ў Полацку. Ён тыповы прадстаўнік эпохі адраджэньня. Ягоная дзейнасьць гэта вынік таго грамадзкага й культурнага разьвіцьця, да якога паднялася ў пачатку 16-га

стагодзьдзя Заходняя Эўропа, а зь ёю й Беларусь - Вялікае Княства Літоўскае.

Адным з найбольшых асягненьняў гэтае эпохі было вынаходзтва друкарств, запачаткаванага ў палове 15-га стагодзьдзя ў Нямеччыне, стуль яно пашырылася на ўсю Заходнюю Эўропу. **6-га жніўня, 1517 г. др. Франьцішак Скарына надрукаваў** у Празе Чэскай **першую на беларускай мове кнігу ПСАЛТЫР, і гэтым даў пачатак беларускаму друку.**

Разьвіцьцё культуры ў Беларусі - тады Вялікім Княстве Літоўскім - было падобнае разьвіцьцю культурыу Заходняе Эўропы. Тады беларуская культура была вышэйшаю за маскоўскую. Беларусакя мова была дзяржаўнай, урадавай, дзелавой мовай Вялікага Княства Літоўскага. Жамойць - 6-я частка Вялікага Княства - сваёй пісьменнасьці зусім ня мела. Беларуская мова была мовай князёў, магнатаў й усіх вярхоў грамадзтва . Як і ўва ўсёй Эўропе Вялікае Княства Літоўскае - Беларусь - была фэадальнай дзяржавай з прывілеямі магнатаў й шляхты. Вялікія багатыя гарады былі эканамічнмымі й культурнымі цэнтрамі й атрымоўвалі ад Вялікага КНязя самаўрад - Майдборскае (Магдэбутскае) права. Полацак быў эканамічным і кулкьтурным цэнтрам і побач Вільні меў Майдборскае права - самаўрад. Таму ня дзіва , што ў канцы 15 стагодзьдзя беларускkая зямля, а менавіта ПОЛАЦАК даў сьвету такога генія, як Франьцішак Скарына.

* * *

**450-я ўгодкі Беларускага друку** адзначалі мы ўрачыста ў Канадзе ў 1967 годзе . 10-я Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, што адбылася у верасьні 1972 году ў Таронта, Канадзе, была прысьвечана, як мы ўжо выжэй гаварылі,

**90-м угодкам Янкі Купалы й Якуба Коласа** ды
**450-м угодкам друку на беларускай зямлі .**

Даклад на тыэму :

**<u>«450-ГОДЗЬДЗЕ ДРУКЛУ НА БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ</u>**
**Угодкі выхаду «Малой падарожнай кніжкі» Доктара Ф. Скарыны»**

меру др. Вітаўт Тумаш зь Нью Ёрку.

«Малая падарожная кніжка » выйшла з друку ў 1522 годзе ў Вільні. Гэтая «першая надрукаваная Скарынам у Вільні кніга малая толькі сваім «падарожным» кішанёвым, у дванацатку, фарматам, але ня лікам бачынаў, якіх у ёй **870.** У ёй памешчаны Псалтыр, праваслаўныя рэлігійныя чытаньні, малітвы, сьпевы, сьвятцы ды важнейшыя календарна-астранамічныя патрэбныя падарожным, даведкі. Выданьне гэта арыгінальнае, укладу й рэдакцыі самога выдаўца . Як і ўсе іншыя выданьні доктара Скарыны , прызначалася яно не для царквы, не для духавенства, але для людзей «паспалітых» сьвецкіх, для народу.»

«. . . Пры асэнсаваньні гістарычнага значэньня першае віленскае друкарні трэ не забывацца, што была яна першай ня толькі на землях Беларусі, ня толькі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, але й на прасторы ўсяе ўсходняе Эўропы. Дык, дзякуючы доктару Скарыну, у галіне друкарства беларускі народ быў першым сярод усіх народаў гэтага абшару.

Важна не забывацца тут тое, што калі друк на эўрапэйскім усходзе пачаўся найперш на беларускай зямлі, дык быў гэта ня нейкі прыпадак, ці капрыс гісторыі. Гэта была падзея гістарычна абумоўленая, папярэднім культурна-тэхнічным разьвіцьцём краю падрыхтаваная. Яна толькі праява вядучае тады на ўсходзе

Эўропы культурна-цывілізацыйнае ролі беларускага народу.

МАЛАЯ ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА сяньня вялікая , дбайна перахоўваная, музэйная рэдкасьць. Па бібліятюках Эўропы ведама, пераважна раськівданых часткамі, колькі ўсяго ПАДАРОЖНЫХ КНІЖАК . Гэта адзіныя цяпер сьведкі тае важнае вехавое культурнае падзеі , да якое 450 гадоў таму дайшло ў Вільні ў доме найстаршага бурмістра места Якуба Бабіча.»

*

«Друк на беларускай зямлі зарадзіўся ня ў нейкім правінцыянальным асяродку, але, гістарычна зусім заканамерна, у дзяржаўна-палітычным і культурным цэнтры краю, у тагачаснай сталіцы Беларусі і усяго Вялікага Княства Літоўскага, у Вільні. Дзеля гэтага сялетнія скарынінскія ўгодкі ня толькі прыгадваюць важнае вехавое падзеі гісторыі культуры беларускага народу. Маюць яны й яскравую палітычную вымову. Угодкі зьвяртаюць увагу, нашую й сьвету, на тую анамалію, што места-калыска друку беларускай зямлі, Вільня, дзяржаўны, гаспадарчы і культурна-духовы цэнтр Бекарусі на працягу больш паўтысячы гадоў , сяньня , за ўсю сваю гісторыю ўпершыню, фармал.на адрэзаны ад беларускай нацыянальнай тэрыторыі савецкай «дзяржаўнай» мяжой.

Нацыянальна якая ды чыя была Вільня ў пару, калі там паўставала першая друкарня, друкарня доктара Скарыны, сьведчыць яскрава тое, што з усіх 21 хрысьціянскіх сьвятыняў места таго часу, 14 было праваслаўных і толькі 7 каталіцкіх. З каталіцкіх-жа дзьве, сьвятой Ганныу й сьвятога Мікалая, збудаваныя нямецкаю каленіяй Вільні, абслугоўвалі рэлігійныя патрэбы нямецкіх рамесьнікаў і купцоў, былі нямецкімі . Катэдра-ж і чатыры касьцёлы іншыя служылі таму беларускаму баярству й мяшчанству, што ўжо былі каталіцкай веры, невялікаму тады яшчэ лікам мяшчанству польскаму ды жыжаром розных іншых дробных нацыянальнасьцяў.

У праваслаўнай сваёй бальшыні сталічнай Вільні знайходзілася тады і сядзіба літоўскага праваслаўнага мітрапаліта. За мітрапалітальны сабор служыла яму праваслаўная царква. Усё справаводзтва ў месьце - дзяржаўна-урадавае, самаўрадавае, юрыдычна-судовае, царкоўнае, гандлёва-камэрцыйнае, прыватнае вялося тады ў Вільні, як і ўва ўсім Вялікім Княстве, толькі пабеларуску. Нават і каталіцкія біскупы Вільні свае граматы пісаллі тады калі не палацінску, дык кірыліцай пабеларуску.

,.....Для адміністрацыйнага ды юрыдычна-судовайчга парадкаваньня жыцьця места выбіраліся бурмістры і лаўнікі. Найстаршым бурмістрам Вільні ў часы дзейнасьці Скарынавае друкарні быў праваслаўны па веры купец Якуб Бабіч . Ён маральна й матарыяльна падтрымліваў Скарыну ў ягоных захадах у справе друку праваслаўных кнігаў ды для гэтага ў сваім доме адвёў для Скарыны месца пад друкарню.

Важная справа абароны места Вільні ў часы Скарыны была ў дазнаных руках вялікага гэтмана літоўскага, слаўнага пагромцы Масквы пад Воршай князя Канстантына Астрожскага, тагачаснага віленскага каштэляна. Князь Астрожскі , праваслаўны па веры сам, быў асабліва шчодрым апякуном праваслаўнае веры й царквы. У самай Вільні ён, сваім коштам, аднаўляў й будаваў праваслаўныя цэрквы.

З прыведзеных вышэй фактаў і лікаў відаць ясна, што жыхарства Вільні ў

часы Скарыны ў дзьвёх найменш трэціх па веры было праваслаўным, па нацыянальнасьці-ж у вялікай бальшыні беларускім. Дык усе гутаркі савецкіх казённых гісторыкаў аб тым, што калі доктар Скарына друкаваў свае кнігі ў Вільні , дык друкаваў на чужой сабе, на жамойцка-лятувіскай зямлі - хвальшаваньне гістарычнае праўды. Вільня была тады местам беларускім , праваслаўным, Скарына дзеіў у сваім нацыянальным асяродздзі, калі друкаваў для таго народу , зь якога сам паходзіў, сярод якога жыў.

Дык Вілня ў часы Скарыны ня была напэўна местам лятувіскім. Ніколі ня была яна гэткаю і парз усе пазьнейшыя вякі, калі места пераживала часы акаталічаньня , палянізацыі, канцэнтрацыі жыхарства жыдоўскага, ды пасьля масавы наплыў расейскага чыноўніцтва. Ня была Вільня лятувіскай па складзе свайго жыхарства й тады, калі ўвосені 1939 году Масква адарвала места з бліжэйшымі аколіцамі ад земляў Заходняе Беларусі ды передала тагачаснай лятувіскай рэспубліцы.

Міжваенныя перапісы ў больш як 200-тысячнай Вільні не рэгістравалі й 2000 (двох тыусяч) жыхароў лятувіскай нацыянальнасьці., ці або яна не складала й 1% усяго жыхарства. Ніякага лятувіскага жыхарства ня было й на колькі дзясяжкаў кілёмэтыраў навакола Вільні. Ведалі гэта дасканала й тагачасныя валадары савецкай імпэрыі, калі передавалі Вільню тым на яе прэтэндэнтам, што ніякіх аб'ектыуўных падставаў на места ня мелі». - гаварыў і пісаў доктар Вітаўт Тумаш.

*

**«Малая падарожная кніжка»** ёсьць першым беларускім малітоўнікам , значыць сёлета **480-я ўгодкі беларускага малітоўніка.**

* * *

## 900 УГОДКІ АД НАРАДЖЗЬНЯ ЕЎФРАСІНЬНІ ПОЛАЦКАЙ

Сёлета юбілей і другога прадстаўніка «Слаўнага граду Полацка», унучкі Полацкага князя Усяслава Чарадзея, Прадславы - Сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Князёўна Прадслава, як і ўсе асабістасьці з выразна інтэлектуальным нахілам у сьрэднявеччы, імкнуліся да царквы, да манастыроў - асяродкаў навукі -, дзе былі кнігі, дзе манахі й сьвятары ўмелі чытаць, студыявалі ды перапісвалі кнігі, так і князёўна Прадслава не жадала выходзіць замуж за слаўнага князя. Яна хацела быць і сталася манашкай Еўфрасіньняй. Чытала й перапісвала кнігі; арганізавала манастыры - жаночы і мужчынскі, а ў іх скрыпторыі. Будавала цэрквы. Для царквы заказала ў Лазара Богшы Крыж, які стаўся рэліквіяй беларускага народу. Была асьветніцай Полаччыны - Беларусі. Як глыбока-веруючая ў Бога й Хрыста, пад канец свайго жыцьця адбыла цяжкое паломніцтва да гробу Хрыстовага ў Ерузаліме. Там Яна й памерла. Па сьмерці царква прызнала Яе сьвятой - а беларускі народ сваёй анякункай. І да Яе - Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай молімся мы у Беларускай Аўтакэфальнай Праваслаўнай Царкве ў Таронта:

Сьвятая Еўфрасіньня Полацкая, малі Бога за нас!

---

Ліпен. 2002
Бэры, Канада

Др. Раіса Жук-Грышкевіч
Былы Старшыня ККБК

---